



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

24 красавіка 2015 года №17 **(1043)**


# Нам – 20 гадоў!

## Адсвяткуйце 20 гадоў "РГ" разам з намі

*Паважаныя чытачы!*

*Мы маем гонар і задавальненне запрасіць вас на **святкаванне 20-годдзя "Рэгіянальнай газеты"**.*

*Вы былі з намі ўсе гэтыя 20 гадоў, таму лагічна будзе, калі вы падорыце нам яшчэ адзін вечар.*

*Мы разам узгадаем тэмы, якія хвалявалі, фотаздымкі, якія захаплялі, людзей, якія натхнялі.*



***Чакаем вас на вечарыне ў выставачнай зале імя Сілівановіча ў Вілейцы 25 красавіка а 16 гадзіне.***

*Уваход свабодны.*

**Калектыў "РГ".**







Сэлфі Настасі РОЎДЫ.

**Калектыў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты": з першага раду злева направа – Зоя Хруцкая і Настасся Роўда, Жанна Горбань, Наталля Харытонава, Аляксандр Манцэвіч, Марыя Бераснева, Наталля Тур, Ніна Манцэвіч, Галіна Сініца, Ігар Мароз. У момант здымак карэспандэнт Алесь Высоцкі працаваў у рэгіёне. Працяг тэмы чытайце на 20-21 старонках.**




31 месца для адпачынку вызначылі сёлета на Мядзельшчыне, сярод іх Белае возера.

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Вызначылі месцы для адпачынку ў рэгіёне

**Да 1 мая на Маладзечаншчыне ў месцах для адпачынку плануюць адрамантаваць навесы, абсталяваць грамадскія прыбіральні, кабіны для пераапранання.**

Падсыпаць і грэйдарам прайсціся па пад'язных дарогах, зрабіць стаянку з адпаведным знакам. Устанавіць буйкі, за якія нельга заплываць, інфармацыйны стэнд і шчыт з выратавальнай маёмасцю.

– На працягу купальнага сезона будуць арганізаваныя дзяжурствы выратавальнікаў, – гаворыць кіраўнік Маладзечанскай раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах **Аляксандр Семашкевіч**. – Пачысцяць дно вадаёмаў, пазбавяцца ад навадной расліннасці.

Па меры неабходнасці будуць вывозіць смецце з тэрыторыі вадаёмаў.

Добраўпарадкуюць тэрыторыю ў месцах адпачынку і ў іншых раёнах.

## Распальваем вогнішча па правілах

Перад сезонам адпачынкаў чытачы "РГ" цікавіліся, ці можна распальваць вогнішчы каля рэк і азёр. Калі так, то якім чынам.

Як нагадвае МНС, распальваць вогнішчы каля рэк і азёр можна толькі ў спецыяльна абсталяваных месцах, а таксама на прысядзібных участках, калі выконваць пэўныя правілы:

1. Адлегласць да пабудоў павінна быць не менш за 10 метраў.
2. Трэба падрыхтаваць сродкі пажаратушэння: рыдлёўку, ваду.
3. За вогнішчам павінны сачыць чалавек, які не будзе дапускаць далейшага распаўсюджвання агню.
4. Пляцоўка, дзе распальваюць вогнішча, павінна быць абкапаная.

Інспектар нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Андрэй Балаш** нагадвае, што за няправільнае распальванне вогнішча на сваёй тэрыторыі пагражае штраф да 30 базавых велічынь (да 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў). Калі ў забароненых месцах, то да 12 базавых велічынь (да 2 мільёнаў 160 тысяч рублёў).

**Галіна СІНІЦА.**

| Раён | Месцы для адпачынку (пляжы) |
|---|---|
| Астравецкі | тры пляжы на возеры Янаўскае каля вёскі Ізабеліна |
| Валожынскі | у вёсцы Гардынава, Сакаўшчынскае вадасховішча, "Жоўты беражок" на Бярэзіне. Плануюць адкрыць спецыялізаванае месца для адпачынку ў вёсцы Багданава |
| Вілейскі | пляж "Сонечны" па Савецкай у Вілейцы, Вілейскае вадасховішча, сажалка ў вёсцы Асіпавічы |
| Маладзечанскі | вадаём Удранка ў гарадскім пасёлку Радашкавічы, вадаём санаторыя "Сасновы бор", вадаёмы ў пасёлку Беразінскае, вадаём дома адпачынку "Алеся", вадаём побач з Хажовам |
| Мядзельскі | на азёрах Мястра, Белае, Балдук, Нарач, Мядзел, Болцік, Расохі, Глубелька. Па тры пляжы будуць на возеры Вялікія Швакшты і на возеры Глубля, па два на возеры Воўчына і на возеры Вішнеўскае. Пляж паміж азёрамі Глубля і Глубелька. |

КОНКУРСЫ

# Ад парусніка да самалёта паказалі на конкурсе

ВІЛЕЙКА

**Мадэлі ваенных і пасажырскіх караблёў, бранятэхнікі, ледакола,ируснікаў, самалётаў і аўтамабіляў прадэманстравалі вучні Вілейшчыны на раённым конкурсе стэндавага мадэлявання.**

Праходзіў ён ад 6 да 10 красавіка ў раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Конкурс праводзіўся ў трох секцыях. На яго прадставілі 56 прац. У конкурсе ўдзельнічалі вучні, якія займаюцца тэхнічным мадэляваннем як у аб'яднаннях па інтарэсах, так і самастойна.

– Найбольш мадэляў прадставіў вучань вілейскай гімназія №1 "Логас" **Віталь Сбродаў.** Ён нават персанальную міні-выставу зрабіў. На ёй было 17 мадэляў, якія адзначылі дыпломамі міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, – расказаў метадыст цэнтра **Анатоль Прыц.**

Па выніках конкурсу адразу ў дзвюх секцыях першыя месцы падзялілі **Віталь Сбродаў** і **Яўген Роліч** (Чурлёнскі сад-школа). Яны сталі найлепшымі ў секцыях "Мадэлі ваеннай тэхнікі, сабраныя з набораў прамысловай вытворчасці" і "Мадэлі грамадзянскай тэхнікі, сабраныя з набораў прамысловай вытворчасці".

У секцыі "Мадэлі ўласнай распрацоўкі і вырабу" першае месца падзялілі **Раман Барыс** з Нарочкай сярэдняй школы і **Юры Нор** з Чурлёнскага сада-школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

САНІТАРНАЯ СЛУЖБА

# Парушаюць правілы раздзелкі птушкі

ВІЛЕЙКА

**Ад 19 сакавіка да 2 красавіка Вілейскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі абследаваў тры гандлёвыя прадпрыемствы на Вілейшчыне, якія ажыццяўляюць раздзелку птушкі.**

На ўсіх іх знайшлі парушэнні санітарных нормаў і правілаў. Па выніках пазапланавай праверкі вынесена пяць пастаноў аб адміністрацыйным правапарушэнні на суму амаль восем мільёнаў рублёў.

На адным з аб'ектаў выявілі факты паўторных на працягу года парушэнняў, якія ствараюць пагрозу прычынення шкоды жыццю і здароўю насельніцтва. Дзейнасць гэтага аб'екта прыпыненая на 15 каляндарных дзён. За невыкананне вытворчага кантролю вынесенае прадпісанне аб прыпыненні дзейнасці па вытворчасці мясных паўфабрыкатаў па асартыментным пераліку.

Праверку праводзілі з удзелам прадстаўнікоў інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску, дзяржаўнай ветэрынарнай інспекцыі раёна і аддзела эканомікі райвыканкама.

**Алена ЛІХАЧЭЎСКАЯ, доктар-гігіеніст Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

ЭКАНОМІКА

# Участак ля возера Нарач ацанілі больш чым у мільярд рублёў

МЯДЗЕЛ

Плошча выстаўленага на аўкцыён участка ў к. п. Нарач (Купа) – крыху менш за гектар. Прызначаны ён для будаўніцтва і абслугоўвання спартыўна-турыстычнага комплексу. Тэрмін арэнды – 99 год.

Пачатковая цана ўчастка – больш за мільярд трыста мільёнаў рублёў. Аўкцыён адбудзецца 7 мая.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Якія праблемы жыхароў Чысці хвалююць

МАЛАДЗЕЧНА

**Мясцовыя жыхары заклапочаныя, што з эканамічнымі праблемамі холдынга “Забудова” Чысць пачне імкліва беднець.**

Што давяло да такога стану і якую будучыню прагназуе ўлада?

Усхваляваны ліст прыслаў наш чытач **Алесь Раткевіч** з Чысці. Ён узгадвае, што ў 2007 годзе ў рэпартажы з Чысці пасёлак назвалі беларускай Швейцарыяй за сучасны выгляд і па-еўрапейску ўладкаваную інфраструктуру. Толькі Дома культуры не хапала, але яго пабудавалі ў 2011 годзе.

“Забудова” не толькі забяспечвала работай і годным заробкам, але і садзейнічала таму, што пасёлак квітнеў.

**“Тады і думкі ні ў кога не ўзнікала, што такая магутная будаўнічая арганізацыя праз нейкія восем год можа апынуцца ў стане поўнага банкрутства”, піша чытач.**

Жыхар Чысці ўсхваляваны: “Калі які-небудзь цэх папрацуе ў месяц тыдзень, то гэта вельмі добра! Канторы пераведзены на трохдзёнкі і на дзве трэці заробку. Заробак спецыялістаў і рабочых зваліўся да 2,5-1,5 мільёна рублёў (!), якіх толькі на камуналку і хапае. Людзі пачалі нехаця масава звальняцца з прадпрыемстваў. Адны ўліліся ў войска “дармаедаў”, а іншыя, хто па стане здароў’я альбо з іншай прычыны не змог паступіць ў тое войска, рушылі ў Мінск, хоць на трохмільённы заробак! Але ж гэты выхад з цяперашняга становішча часовы. Бо паўмільённае войска “дармаедаў” неўзабаве будзе “расфарміравана”, а Мінск усё ж такі не гумовы”.




**Па аўторках і пятніцах у Чысць прыязджае апарат “Пульмаэкспрэс”. Стаіць каля галоўнага ўвахода ў бальніцу ад 9 да 16 гадзін. У сярэднім у дзень абследаванне можа можа зрабіць 78 чалавек.**

Фота з архіва “РГ”.

Бальніца ў Чысці.

Аўтар адчувае сябе разгубленым з прычыны такога заняпаду “Забудовы”: здаецца, заказаў у таварыства было многа, прадукцыя якасная. Таму сярод мясцовых існуе некалькі версій на гэты конт. Адны спасылаюцца на эканамічны крызіс, іншыя бачаць цень нейкай арганізацыі, якая хоча прысабечыць холдынг. А некаторыя вінавацяць “Дажынкі”. Каб падрыхтаваць горад да рэспубліканскага свята, неабходныя былі велізарныя сродкі, але ці вярнуў іх заказчык?

Алесь Раткевіч узгадвае народную мудрасць, што адна бяда не ходзіць. Працы няма, заробкі мізэрныя, як плаціць штомесяц па рахунках?

Таксама ён пытаецца, чаму ў 20 разоў узрасла цана на прыватызацыю зямлі, а 25-гадовыя кватэры ацэньваюць, як новыя?

Яшчэ адзін боль тычыцца медыцынскай сферы. Чытач абураны, што ў Чысцінскай бальніцы няма магчымасці рабіць усе патрэбныя рэнтгенздымкі, а машына з Маладзечна прыязджае нерэгулярна. Яму даводзілася некалькі разоў ездзіць у райцэнтр, каб зрабіць гэтыя рэнтгенздымкі.

Алесь Раткевіч падсумоўвае, што прыкрасці сітуацыі надае тое, што ніхто адкрыта не гаворыць пра праблемы і як збіраецца іх вырашаць.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Адказ райвыканкама

На наш запыт паводле ліста Алеся Раткевіча мы атрымалі адказ ад Маладзечанскага райвыканкама. Згодна з ім, “Забудова” знаходзіцца ў складаным фінансавым становішчы, якое выклікаў востры недахоп сродкаў, высокая закрэдытаванасць, адмоўныя курсавыя розніцы і невыкананне плана рэалізацыі прадукцыі на экспарт. Гэта пацягнула збоі ў вытворчасці, рост цаны прадукцыі і рост убыткаў. Ад сакавіка пачалі работу па фінансавым аздараўленні холдынга. Адно з дачынных прадпрыемстваў “Забудова-Агра” перадалі ў камунальную ўласнасць Маладзечанскага раёна. Прадпрыемства стаяла ад 1 да 19 лютага, калі работнікам плацілі 2/3 акладу, а ІТРаў перавялі на трохдзёнку ад 9 лютага.

**Цяпер уся вытворчасць, акрамя цэха па перапрацоўцы лесу, працуе. Зараз на “Забудове” працуе 1244 чалавекі, сярэдні заробак – 3,7 мільёна рублёў.**

У адказе на пытанні па прыватызацыі і цане жылля спасылаюцца на заканадаўчыя дакументы, паводле якіх разлічваюць кошт прыватызацыі.

Наконт медыцынскага абслугоўвання адказваюць, што ў 2009 годзе ў Чысцінскай бальніцы паставілі рэнтгенаграфічны апарат. Дэнтальны апарат не ўстанавілі, таму што ён быў бы недастаткова загружаны. Патрэбныя здымкі пацыентам робяць бясплатна ў Маладзечанскай стаматалагічнай паліклініцы.

У 2011-2012 гадах некаторыя дэталі рэнтгенапаратаў ў Радашковіцкай бальніцы і гарадской №1 паламаліся. Таму з Чысцінскай бальніцы ў паліклініку №1 перавезлі выпраменьвальнік з чысцінскага рэнтгенапарата.

Па аўторках і пятніцах у Чысць прыязджае рухомы апарат “Пульмаэкспрэс”. Ён стаіць каля галоўнага ўвахода ў бальніцу ад 9 да 16 гадзін. У сярэднім у дзень абследаванне можа зрабіць 78 чалавек. Пры патрэбе пацыентаў стацыянара возяць на працэдуру ў Маладзечна для рэнтгенаграфіі груднай клеткі.

Сёлета графік не парушылі ні разу, а ў канцы 2014 года “Пульмаэкспрэс” выязджаў раз на тыдзень, таму што паламалася іншая рухомая устаноўка.

Для таго, каб у Чысці зноў запрацаваў рэнтгенкабінет, неабходна закупіць рэнтгенаўскую трубку коштам каля 150 мільёнаў рублёў. Яна ўключаная ў план закупак на сёлета.

Ліст ад выканкама падсумоўваецца тым, што на сустрэчах з насельніцтвам, сесіях Савета дэпутатаў тлумачылі прычыну, чаму ў Чысцінскай бальніцы не працуе рэнтгенапарат.

Аб выніках пасяджэння эканамічнага суда Мінскай вобласці па справе “Забудовы” чытайце ў наступных нумарах.

**Поўны ліст адказу чытайце на сайце**




**ЛІЧБА НУМАРА**

**92** холдынгі ў Беларусі

“Забудова” зарэгістраваная ў 2010 годзе пад № **14**

Холдынг – арганізацыя, у якой ёсць мацярынская кампанія і сетка дачынных

Паводле спіса Міністэрства эканомікі

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 16.04 | 23.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 420,00 | **14 580,00** |
| Еўра | 15 220,00 | **15 680,00** |
| Злоты | 3 801,54 | **3 837,53** |
| Расійскі рубель | 278,00 | **14 580,00** |
| Грыўня | 635,24 | **682,10** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 22.04** | | |
| Еўра | 15100/15250 | **15300/15700** |
| Долар ЗША | 14200/14440 | **14200/14580** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 15.04 | 22.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 75000 | **75000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39900** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 90000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13000 | **12900** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4800** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7900** |
| Капуста, 1 кг | 11900 | **16900** |
| Морква, 1 кг | 8000 | **17500** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Радыска, 1 кг | 29900 | **29500** |
| Лімоны, 1 кг | 26900 | **27900** |
| Апельсіны, 1 кг | 21500 | **21900** |
| Мандарыны, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Ківі, 1 кг | 27500 | **26500** |
| Памідоры, 1 кг | 34900 | **34900** |
| Агуркі, 1 кг | 26900 | **29900** |
| Перац, 1 кг | 60000 | **55900** |
| Вінаград, 1 кг | 29900 | **41900** |
| Бананы, 1 кг | 29900 | **19900** |
| Яблыкі, 1 кг | 11900 | **12900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 26900 | **26900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **80000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |


Фота Наталлі БРОЎКІ

Перакулены бензавоз праляжаў на дарозе амаль увесь дзень. Цяпер месца, дзе разлілося паліва, засыпалі пяском.

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Бензавоз з дызпалівам перакуліўся каля Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**З цыстэрны вылілася 100 літраў паліва.**

Выратавальнікам давялося тэрмінова прымаць меры, каб яно не загарэлася.

Паводле Мінскага абласнога ўпраўлення МНС, паведамленне аб аварыі з удзелам бензавоза "Мерседэс-Бэнц" прадпрыемства "Лукойл Беларусь" паступіла 21 красавіка ў 10:19.

– Кіроўца бензавоза перавозіў 18 тысяч літраў дызельнага паліва. Ён не ўлічыў умовы надвор'я, было мокра, і не справіўся з кіраваннем на закругленні пры ўездзе на кальцо, – паведаміў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**. – Аўтамабіль перакуліўся.

Праз ДТЗ быў часткова абмежаваны рух. Работнікі МНС працавалі, каб папярэдзіць уцечку і загаранне паліва, а таксама каб паставіць аўтамабіль у транспартнае становішча.

24-гадовага кіроўцу з ранамі шпіталізавалі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Праходзіць комплекснае мерапрыемства "Вучэбны аўтамабіль"

МАЛАДЗЕЧНА

Яно пачалося 20 і будзе доўжыцца да 30 красавіка.

Падчас мерапрыемства пройдуць рэйды над майстрамі па кіраванні, праверыць, як яны выконваюць праграмныя патрабаванні.

Асаблівую ўвагу супрацоўнікі міліцыі звернуць на парушэнні ў вядзенні пуцявой дакументацыі, прыпісванне гадзін заняткаў, выкарыстанне службовага транспарту не па прызначэнні, прасочаць, як вучэбны транспарт выходзіць на лінію і вяртаецца ў парк. Таксама тэхнічны стан і своечасовае праходжанне тэхагляду вучэбных машын.

**Паводле начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС маёра міліцыі Уладзіміра Мумрыкава.**

● ЗДАРЭННІ

## Завал дохлых дзікоў знайшлі жыхары Маладзечанскага раёна?

### Пракуратура праводзіць праверку

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхары вёскі Турэц-Баяры даслалі ў рэдакцыю фатаграфіі, на якіх бачныя засыпаныя зямлёй трупы дзікоў.**

Гісторыя, якая атрымала працяг у сакавіку гэтага года, пачалася яшчэ мінулай восенню. Дзеці знайшлі ў балоце ля ракі дзве тушы дзікоў і расказалі пра ўбачанае мясцоваму паляўнічаму, распавядаюць жыхары вёскі.

На месцы паляўнічы знайшоў яшчэ 6 трупаў – усяго 8. У свіней, відаць, з лыча ішла кроў, – распавядаюць відавочцы і мяркуюць, што свінні былі заражаныя афрыканскай чумой свіней. – Паляўнічы пра ўсё паведаміў егеру".

На гэтым сітуацыя, падобна, была вычарпаная. Мясцовыя жыхары хадзілі паглядзець месца загінулых жывёл.

– У мінулым годзе на тым месцы нічога ўжо не было. Мы бачылі толькі расчышчаны праезд і сляды УАЗіка. Думалі, што ўсё ўтылізавалі, – расказваюць паляўнічыя.

У сярэдзіне сакавіка жыхары вёскі, ідучы па лесе, адчулі смурод. І ў метрах 500-600 ад месца леташняга выяўлення трупаў і прыкладна ў 800 метрах ад вёскі ўбачылі ў яме нагрувашчванне туш свіней, прысыпаных пяском. З пяску тырчалі астанкі, іх расцягвалі лісы. Аб знаходцы паведамілі ў інспекцыю па ахове жывёльнага свету, распавядаюць мясцовыя.

Пасля таго як выпадак з трупамі ўсплыў паўторна, на месца прыязджалі прадстаўнікі лясгаса.

– Прыязджала інспекцыя па ахове жывёльнага свету, і праз тыдні тры – дэлегацыя з сямі машын: ветэрынары і супрацоўнікі Генеральнай пракуратуры, – распавядае жыхар вёскі Турэц-Баяры.

А нядаўна па вёсцы сталі хадзіць ветэрынары, правяраць свойскую жывёлу.

Больш за ўсё людзей непакоіць тое, што хтосьці хацеў схаваць леташні інцыдэнт і замоўчыць магчымую крыніцу заразы.

– Інакш навошта было адцягваць трупы на адлегласць і засыпаць пяском, – дзівяцца мясцовыя.

Намеснік начальніка міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету **Кірыл Чабан** сказаў "Рэгіянальнай газеце", што ў Турэц-Баярах была знойдзеная туша толькі аднаго кабана.

– Ветэрынары праверылі тушу на наяўнасць агнястрэльных раненняў, – такіх пашкоджанняў на кабане не было. Цяпер распачаты адміністрацыйны працэс. Пра папярэднія вынікі можна будзе гаварыць не раней, чым праз тыдзень.

**Наталля ТУР, паводле TUT.BY**

● ЗДАРЭННІ

## На Вілейшчыне знайшлі аўтаматы, кулямёт і ўзрыўчатку

ВІЛЕЙКА

Начальнік аддзела 2-га ўпраўлення ГУБАЗіК МУС Беларусі **Аляксей Барушка** расказаў: "Выяўленыя тры аўтаматы, прыдатныя да выкарыстання. Аўтамат Калашнікава, пісталет-кулямёт Шпагіна, чэшскі кулямёт SA з глушыцелем. Арсенал патронаў колькасцю больш за 150 штук, больш як 500 грамаў пластыду, некалькі электрадэтанатараў".

Адным з неафіцыйных уладальнікаў гэтага склада быў 49-гадовы **Ігар Лук'яненка**. Ён належаў да крымінальнай эліты Беларусі.

Паводле інфармацыі аператыўнікаў, зараз Лук'яненка можа знаходзіцца за межамі Беларусі – у Расіі. Там у яго нібы маюцца шырокія сувязі з шэрагам мясцовых аўтарытэтаў.

**Паводле tvr.by**

## Знайшлі дзеючы самагонны апарат

ВІЛЕЙКА

13 красавіка падчас рэйду начальнік Вілейскага РАУС **Аляксандр Каратыш** сумесна з намеснікам начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі райаддзела **Віталем Салаўём** і ляснічым Касцяневіцкага лясніцтва выявілі дзеючы самагонны апарат. Знайшлі яго ў лесе ля вёскі Балашы.

У трох ёмістасцях была тысяча літраў брагі. Яе знішчылі.

За тры месяцы года супрацоўнікі райаддзела канфіскавалі 129 літраў самагону, 470 літраў брагі, шэсць самагонных апаратаў. Да адказнасці прыцягнуты 69 правапарушальнікаў. Пра гэта паведаміў часовы выканальнік абавязкаў намесніка начальніка РАУС **Дзмітры Антановіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пакінула на пліце каструлю – выклікалі МНС

ВАЛОЖЫН

16 красавіка жанчына пакінула на пліце каструлю, у якой хацела прыгатаваць абед. Але забылася на яе.

Выратавальнікаў выклікала суседка, калі пачула сігнал апавяшчальніка. Калі яны прыехалі на месца здарэння, убачылі, што кватэра задымленая.

У кватэры жыў 66-гадовы мужчына-інвалід з жонкай і дарослым сынам.

**Паводле Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.**

● КОНКУРС

## Міліцыя ладзіць конкурс на лепшае сачыненне

МАЛАДЗЕЧНА

Да 80-годдзя падраздзяленняў па справах непаўнагадовых Міністэрства ўнутраных спраў праводзіць трэці рэспубліканскі конкурс "Участковы інспектар, які мне дапамог".

Кожны можа распавесці пра выпадкі ўзаемадзеяння з участковымі і інспектарамі па справах непаўнагадовых, якія пакінулі добрае ўражанне. Тры лепшыя работы накіруюць у МУС для ўдзелу ў фінале.

Вынікі конкурсу абвесцяць 19 чэрвеня (на 80-годдзе ІДН) на святочным канцэрце фінальнага этапу агляду-конкурсу на званне "Лепшы ўчастковы інспектар міліцыі" і "Лепшы ўчастковы інспектар па справах непаўнагадовых".

У час акцыі кожны можа падзякаваць участковаму, накіраваўшы паведамленне на адрас: **220079, г. Мінск, вул. Кальварыйская, 27, каб. 501.** Вы можаце напісаць электронны ліст з пазнакай "На конкурс "Участковы інспектар, які мне дапамог" на адрас: **uopp@uvd-mo. gov.by.**

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**




Малюнак manuelfaas.wordpress.com

Упершыню "хуткія знаёмствы" адбудуцца ў Маладзечне 14 мая, але заяўкі можна падаваць ужо сёння.

ІМПРЭЗЫ

# "Хуткія знаёмствы" у Маладзечне

## Моднае мерапрыемства, ці рэальны шанец знайсці каханне?

МАЛАДЗЕЧНА

**Моднае мерапрыемства "Хуткія знаёмствы", або як называюць ва ўсім свеце Speed Dating, нарэшце, прыйшло і ў Маладзечна.**

14 мая хлопцы і дзяўчаты, якім не хапае часу або смеласці знаёміцца ў паўсядзённым жыцці, могуць паўдзельнічаць у спецыяльным праекце, які адбудзецца ў кавярні "Калумб".

Мерапрыемства пройдзе ў межах фестывалю "Час жыць". Арганізатар сустрэчы **Ганна Кічыгіна** пагадзілася расказаць пра такія знаёмствы і адказаць на пытанні тых, хто хоча ўдзельнічаць, але не ведае чаго ад гэтага чакаць.

Такія сустрэчы даўно не навіна. З'явіліся яны яшчэ ў 90-х гадах. Вось, нарэшце, дабраліся і да нас. Сэнс "хуткіх знаёмстваў" у тым, што за адзін вечар можна пазнаёміцца з 10-15 прадстаўнікамі супрацьлеглага полу і затым выбраць, з кім з новых знаёмых працягнуць сяброўства, дзелавыя або рамантычныя адносіны.

**– Як працуе прынцып "хуткіх знаёмстваў"?**

– Дзяўчаты ў пачатку вечара займаюць месцы за столікамі ў кавярні. Вядучы дае сінгал, і да іх за столікі падсаджваюцца хлопцы. 5-7 хвілін пары размаўляюць, затым па сігнале вядучага хлопцы перасаджваюцца за наступны столік. Паралельна ў гэты час і хлопцы і дзяўчаты запаўняюць карту сімпатый, якую атрымалі ў пачатку вечара.

Карта сімпатый – гэта так званая шкала, па якой арганізатары потым вызначаюць, ці трэба даваць кантакты новым знаёмым. Калі сімпатыі ў хлопца і дзяўчыны супалі, то арганізатары даюць тэлефон абаім.

– Калі ж, напрыклад, хлопец упадабаў дзяўчыну, а яна яго не, то кантакт хлопца мы дадзім дзяўчыне, а яна ўжо зможа вырашыць, ці тэлефанаваць яму. Ці наадварот. Акрамя тэлефонаў, мы можам абмяняць удзельнікаў е-мэйламі або адрасамі старонак у сацыяльных сетках.

Падчас мерапрыемства верагодны і перапынак, каб тыя, хто пазнаёміўся, маглі пагутарыць за кубкам кавы, не паглядаючы на гадзіннік.

**– Хто прыходзіць на такія вечары знаёмстваў?**

– Гэта сустрэча ў Маладзечне першая, таму я дакладна не магу сказаць, хто на яе прыйдзе, але, як паказвае досвед іншых сустрэч, сюды прыходзяць людзі, якіх цікавяць знаёмствы з новымі людзьмі, людзі, якім шкада марнаваць свой час у інтэрнэце.

**– Да якога ўзросту можна ўдзельнічаць у "хуткіх знаёмствах"?**

– На нашай сустрэчы будуць праходзіць знаёмствы ў дзвюх групах. У адной узрост удзельнікаў 18-24 гады, у другой групе – ад 25 да 30 год.

**– Ці дастаткова пяці хвілін, каб пазнаёміцца і спадабацца адзін аднаму?**

– Існуе шмат прыкладаў, калі для таго, каб зразумець, ці твой гэта чалавек, дастаткова і хвіліны. "Хуткія знаёмствы" – не выключэнне. Калі будзе імпульс, то працягнуць знаёмства пасля завяршэння мерапрыемства ніхто вам не забароніць.

**– Як апранацца на такое мерапрыемства?**

– У нас дрэс-кода няма, але відавочна, каб спадабацца супрацьлегламу полу, трэба выглядаць прыстойна. Я не рэкамендавала б прыходзіць ні ў трэніровачных касцюмах, ні ў вячэрніх сукенках з аголенымі плячыма. Усё павінна быць у меру.

**– Навошта папярэдне рэгістравацца перад сустрэчай?**

– Мы павінны гарантаваць удзельнікам сустрэчы аднолькавую колькасць хлопцаў і дзяўчат. Таму ўжо сёння можна зарэгістравацца ў нашай суполцы ў сацыяльнай сетцы або патэлефанаваць мне: **+37529 7662758.** Для таго, каб зарэгістравацца, нам трэба ведаць ваша імя, узрост, кантакты.

**Наталля ТУР.**

### Перавага "хуткіх знаёмстваў"

**1. Эфектыўнасць.** На сустрэчы вы не сустрэнеце выпадковых людзей. Усе, хто прыйдуць, будуць шукаць у вас тое самае, што і вы ў іх – узаемнасць ў інтарэсах, у поглядах.

**2. Жывыя стасункі.** На вечарыне вас чакаюць рэальныя, а не віртуальныя сустрэчы. І позірк вочы ў вочы – гэта ўжо абяцанне нечага большага, чым бяздушная перапіска ў сецыве.

**3. Камфортныя ўмовы.** Усё дзеянне адбываецца ва ўтульным месцы, у асобнай зале, у камфортнай атмасферы. Прыемная музыка і кубачак кавы дапамогуць расслабіцца і нададуць зносінам асаблівую лёгкасць і натуральнасць. Калі вам не падабаецца той, з кім вы знаёміцеся зараз, то па сцэнары гульні – гэтая сустрэча будзе доўжыцца ўсяго 5 хвілін, а затым будзе новае знаёмства. І вам не трэба прыдумваць адгаворкі для таго, каб не працягваць знаёмства.

**4. Бяспека і прыватнасць.** Важкім аргументам на карысць "хуткіх знаёмстваў" з'яўляецца бяспека ўсіх удзельнікаў. Кантакты і імёны ўдзельнікаў даступныя толькі арганізатарамі і толькі з вашай згоды могуць быць перададзеныя некаму яшчэ.

**5. Эканомія.** Рэальных знаёмстваў больш, а выдаткаў менш, чым паход у начны клуб або 10 спатканняў ўслярную, напрыклад.

АДУКАЦЫЯ

# У Мядзеле вучні захапілі ўладу ў школе

МЯДЗЕЛ

**Праўда, камандавалі яны толькі адзін дзень. У Мядзельскай сярэдняй школе №1 імя Уладзіміра Дубоўкі 16 красавіка прайшоў Дзень самакіравання.**

Больш за 60 вучняў 9-11 класаў узялі на сябе ўсю ўладу ў школе. Праводзілі ўрокі, дзяжурылі на паверхах, выдавалі кнігі ў школьнай бібліятэцы, на перапынках "круцілі" любімыя песні настаўнікаў.

Да ролі настаўнікаў давялося сур'ёзна рыхтавацца. Школьнікі складалі планы-канспекты ўрокаў, падбіралі прэзентацыі і наглядны матэрыял. Задумваліся, чым заняць шумных малых на перапынках. Але затое спадабалася, як іх прымалі меншыя вучні: нават адпускаць не хацелі.

**Праўда, працы настаўнікам-дублёрам выдалася больш. Ім яшчэ давялося спраўляцца з двума новымі класамі – 12 "А" і 12 "Б".**

У дванаццацікласнікаў на дзень ператварыліся педагогі школы. Урокі ім дасталіся досыць лёгкія: музыка, выяўленчае мастацтва, інфарматыка і інтэграваны урок. А дзеці пастараліся зрабіць іх цікавымі. Напрыклад, на ўроку музыкі вывучалі песню "ДДТ" "Что такое осень". Дзеці з сабой гітары ўзялі і ў ролі **Юрыя Шаўчука** выступілі.

Ацэньвалі веды вучняў у спецыяльных кантрольных лістах. Тут жа і заўвагі пісалі – дарослым таксама.

Пасля ўрокаў адбыўся педагагічны савет. Выступалі з дакладамі дублёр дырэктара школы **Яўген Лушчык** і яго намеснікі. Выказвалі прапановы, як палепшыць дысцыпліну ў школе. Напрыклад, праводзіць міні-конкурс на самага прыкладнага вучня дня.

Па выніках Дня самакіравання правялі анкетаванне. Вучні дзяліліся, што хацелі б праводзіць падобнае мерапрыемства часцей. Бо Дзень самакіравання апошні раз быў у школе гадоў восем таму назад. Адрадзілі яго цяпер, у Год моладзі.

Паспрабаваўшы настаўніцкага хлеба, ацанілі вучні, што праца педагога хоць і цяжкая, але цікавая і пазнавальная.

– Таму, магчыма, Дзень самакіравання дапаможа каму з вучняў абраць прафесію настаўніка, – кажа намеснік дырэктара школы па выхаваўчай рабоце **Алена Паршута.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЭКАЛОГІЯ

# Віляйчане адзначыліся ў конкурсе па энергаэфектыўнасці

ВІЛЕЙКА

"Энергія і асяроддзе пражывання" – штогадовы рэспубліканскі конкурс школьных праектаў па энергаэфектыўнасці. Конкурс праводзіцца ў межах міжнароднага адукацыйнага праекта SPARE і сусветнай дэкады ААН "Адукацыя для ўстойлівага развіцця" пры падтрымцы Нарвежскага таварыства аховы прыроды і INFORSE Еўропа.

Конкурс даволі цікавы і прыняць удзел у ім могуць не толькі вучні, але і педагогі. Ён праводзіўся пад дэвізам: "Нашы энергетычныя рашэнні для захавання прыроды і клімату" па трох намінацыях.

Прайшлі раённы і абласны этапы. Па выніках абласнога этапу вучня 10 "А" класа гімназіі **Андрэй Міхалёва** ўзнагародзілі Дыпломам першай ступені, а вучняў 11 "Б" класа **Івана Ігнатовіча** і **Юлію Лукшу** – Дыпломам другой ступені. Настаўніцы пачатковых класаў **Таццяна Емяльянчык** і **Наталля Мамай** прыдумалі цікавыя настольныя гульні для сваіх вучняў "Дыван ідэй" і "Захаваем наш клімат" і атрымалі Дыплом трэцяй ступені.

Таксама падвялі вынікі рэспубліканскага этапу конкурсу. Удзельнікаў запрасілі ў Мінск для ўдзелу ў экскурсіях, конкурсах, канцэртах. У Рэспубліканскім экалагічным цэнтры прайшло ўзнагароджанне дыпламамі і каштоўнымі прызамі. Дыплом другой ступені прывезлі Андрэй Міхалёў і яго кіраўнік **Яўген Мароз.** Настаўніц **Таццяну Емяльянчык** і **Наталлю Мамай** таксама ўзнагародзілі дыпломам.

**Алена МАЧЭЛЬ,**
**настаўніца вілейскай гімназіі №1 "Логас".**




Фота забяспечана Людмілай БУРКЕВІЧ.

Уладзімір Слабодчыкаў на прэзентацыі ў Вілейцы.

● КУЛЬТУРА

# Без скульптуры няма і жыцця

## У Вілейцы Уладзімір Слабодчыкаў прэзентаваў альбом сваіх скульптур

ВІЛЕЙКА

**Скульптура "Вілляна" стала ўжо адной з візітовак Вілейкі. А больш даведацца пра творчасць яе аўтара Уладзіміра Слабодчыкава віляйчане маглі 17 красавіка.**

У зале выстаў імя Сіліvановіча адбылася прэзентацыя альбома "Уладзімір Слабодчыкаў. Скульптура".

У выданні сабраныя выявы скульптур, якія зробленыя вядомым творцам. Толькі пералік яго званняў колькі месца зойме: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ганаровы член Расійскай Акадэміі мастацтваў, член Брытанскага каралеўскага таварыства скульптараў. Больш за чвэрць стагоддзя ўраджэнец вёскі Даўгінава ўзначальвае кафедру скульптуры ў Акадэміі мастацтваў.

– Уладзімір Слабодчыкаў удзельнічаў у мностве пленэраў за мяжой, яго працы знаходзяцца у разнастайных галерэях і музеях. Але мала хто можа пабываць у Швейцарыі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, Турцыі, паглядзець там яго працы, – расказвае навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – А ў альбоме можна ўбачыць гэтыя і многія іншыя скульптуры. Вядома, і ў кнігу многае не ўвайшло. Уладзімір Слабодчыкаў стварыў шмат прац, і на 308 старонках умясціць яго скарбніцу немагчыма. Але самае асноўнае, яскравае і цікавае тут ёсць.

**Альбом ствараўся па еўрапейскім узоры. Тэкст у ім – на трох мовах. Найперш – на беларускай. А яшчэ – рускай і англійскай.**

### "Ён жыве гэтай працай"

Прыехалі на прэзентацыю Уладзіміра Слабодчыкаў і мастак-афарміцель выдання **Аляксандр Кулажанка.** Завіталі землякі скульптара – дэлегацыя з Даўгінаўскай школы. Дзяліліся, што ганарацца знакамітым земляком. Прыгадалі такі выпадак. Неяк прыязджаў Уладзімір у Даўгінава. Ля ракі знайшоў прыгожы камень і пачаў апрацоўваць. Падышоў аднавясковец і кажа: "А я то думаў, што ты касу кляпаеш".

Гучалі пажаданні творцу ад старшыні раённага савета дэпутатаў **Наталлі Радзевіч.** А **Клаўдзія Дубовік** прысвяціла яму верш. Гучала музыка ў выкананні ансамбля гітарыстаў "Адэліта" пад кіраўніцтвам **Уладзіміра Лапціка.**

Паказалі на прэзентацыі відэафільм пра Уладзіміра Слабодчыкава.

**– Асноўнае з гэтага фільма – яго фраза, што скульптура – гэта вялікая частка жыцця. Калі ў яго забраць скульптуру, то жыцця больш няма. Ён жыве гэтай працай. Вельмі ўдзячны сваёй сям'і: яны не крыўдуюць на тое, што шмат часу праводзіць у майстэрні, – кажа Надзея Аўдзей.**

Па ініцыятыве творцы ў 2013 годзе ў Вілейцы прайшоў пленэр скульптараў. Удзельнічалі ў ім студэнты Акадэміі мастацтваў. Хоча Уладзімір Слабодчыкаў яшчэ правесці падобны пленэр у Вілейцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ДА 70-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ

# Вучні прыгадалі пра "Падарунак на фронт"

ВІЛЕЙКА

Ад лютага да мая праводзіцца рэспубліканскі фестываль-конкурс творчасці дзяцей і моладзі "Вянок славы". Прысвечаны ён 70-годдзю Перамогі.

Раённы этап праходзіў у цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. На выставе больш за 150 прац: разнастайныя вырабы, сувеніры, паштоўкі, малюнкі, тэхнічныя вырабы. Усе яны прысвячаюцца тэме Вялікай Айчыннай вайны.

Напрыклад, па тэме "Падарунак на фронт" прадставілі вышытыя насоўкі, сурвэткі, кісеты, вязаныя шкарпэткі, рукавіцы і іншыя вырабы. А навучэнцы раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі ўмела ўвасобілі ў працах вобраз салдата.

Установы адукацыі дастойна паказалі сябе на выставе. Праявілі высокае майстэрства і фантазію вучні Людвіноўскай сярэдняй школы, Залескага сада-школы, СШ №3 Вілейкі. Шмат якасных работ выканалі вучні сярэдніх школ №1 і №5 Вілейкі, распавяла метадыст цэнтра **Алена Ракецкая.**

Лепшыя працы раённага этапу накіравалі для ўдзелу ў абласным этапе "Вянка славы".

**Аддзел інфармацыі.**

● КУЛЬТУРА

# Віляйчанак адзначылі на фестывалі "Салют талентаў"




Фота Алега ЗАЙЦАВА.

Ірына Храмцова стала лаўрэатам другой ступені фестывалю.

ВІЛЕЙКА

Юныя віляйчанкі ўдзельнічалі ў трэцім Міжнародным фестывалі вакальнага мастацтва "Салют талентаў". Праходзіў ён 19 красавіка ў Мінску ў Палацы прафсаюзаў.

Навучэнка школы мастацтваў па класе эстрадны вакал **Ірына Храмцова** стала лаўрэатам другой ступені. Выступала яна ў намінацыі 12-15 год і сапернічала з 24 удзельнікамі.

Яшчэ адна навучэнка школы мастацтваў **Вікторыя Саванец** у сваёй намінацыі атрымала дыплом за ўдзел. Таксама дзяўчатам уручылі запрашэнне на Нацыянальны конкурс выканаўцаў папулярнай песні "Беларуская жамчужына-2015", які адбудзецца ў маі ў Мінску. Там яны пазмагаюцца за права прадстаўляць Беларусь на Міжнародным конкурсе папулярнай песні "Berliner Perle-2015" у Германіі.

Пра ўсё гэта расказала выкладчыца школы мастацтваў **Нэлі Зайцава.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ВЫСТАВЫ

# Па прафесіі – фізік, у душы – лірык

## На Ашмяншчыне адкрываецца выстава Уладзіміра Бізюка

АШМЯНЫ

30 красавіка а чацвертай гадзіне дня адкрыецца выстава "Гама натхнення" **Уладзіміра Бізюка.** Яна будзе працаваць да лета.

На ёй прадстаўленыя пейзажы Ашмяншчыны.

Уладзімір Бізюк – самадзейны мастак, працуе дырэктарам школы-інтэрната ў Ашмянах. Па спецыяльнасці фізік.

Як адзначае навуковы супрацоўнік Ашмянскага краязнаўчага музея імя Францішка Багушэвіча **Ірына Буслові**ч, Уладзімір Бізюк па прафесіі фізік, а ў душы – лірык.

**Галіна СІНІЦА.**

# ВІНШАВАНКА

**Дарагой Настассі РОЎДЗЕ**
**Віншуем з 20-годдзем!**

Ты нарадзілася за два дні да таго, як у свет выйшаў першы нумар "Рэгіянальнай газеты". Мы рады, што святкуем адразу два 20-годдзі: твой і газеты. Ты стала надзейнай і працавітай калегай, чыя крэатыўнасць і адданасць – неад'емныя складнікі нашай каманды. Мы ганарымся, што вымяраць газету можам табой: ты такая ж маладая, сучасная і душэўная. Дзякуй, што ты далучылася да нашай кампаніі. Няхай табе заўсёды хапае энергіі здзяйсняць планы, смеласці пакараць мары і годнасці быць вернай сабе.

**Калектыў "РГ".**

**З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!**
**Кацярыне Паўлаўне ЮШКЕВІЧ**
**з Валожына**

Любімая наша, віншуем цябе з днём нараджэння.

Здароўя, даўгалецця, прыгажосці, дабра і шмат прыемных уражанняў. Вялікі дзякуй табе за тваю любоў, дабро, пяшчоту і ўсмешку.

**Муж, дзеці, нявестка, унук.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-А6 С4,1995 г.в., 2,6 газ-бензін, АКПП, седан,серабрысты металік, добры стан. Маладзечна. Т. (8-029) 6465123.

• Аўдзі -А6 С4, 1996 г.в., 1,9 ТДІ, цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 7580842.

• ВАЗ-21061, 1990 г.в., 1500 см. куб, 5МКПП. Т. (8-029) 6525751.

• ВАЗ-21063, у добрым тэхнічным стане. Рухавік ВАЗ-2106 з КПП. Т. (8-029) 7600937.

• Газ-31029, 1996 г.в., аб'ём 2,4, газ-бензін, чорны, у выдатным стане, 15 000 000 руб. Т. (8-029) 5448700, (8-029) 5475524.*

• Міцубісі-Спайс Вэган, 1998 г.в., 2,0ТД, МКПП, добры стан. Кандыцыянер, не пракураны салон. Падрабязнасці па тэлефоне. 64 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 5743529.*

• Нісан - Прымера, 2002 г.в., (Р12), 2,2 дызель (японец, ланцуг), 250 т. км, 6МКПП, універсал, серабрысты. Камера, л/д, эл/пакет, усё спраўнае, 2 камплекты рызіны. Расход: горад/траса-8/5 л. Выдатны стан. Цана 78 300 000 рублей, торг. Т. (8-029) 6513915.

• Опель-Астра, 1994 г.в., 1,7ТД ісудзу. Т. (8-029) 5781085.*

• Опель-Зафіра В, 2005 г.в., 1,6 бензін, 102 000 км прабега, МКПП. Т. (8-029) 5039768.

• Опель-Астра, 1999 г.в., дызель. Т. Вэлком 6056632.

• Опель-Вектра В, 1996 г.в., 1,6 бензін, хэтчбэк, шэра-бэжавы металік. Т. (8-033) 6628801.

• Опель-Вектра В, 1995 г.в., 1,7 Д, шэры металік, 5 л/100 км, сігн., падгрэў шкла, цэнтр. Замок, фаркоп, добры стан, не патрабуе капукладанняў, 40 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 3232958.

• Опель-Вектра, 2001 г.в., 2,0 ТДІ, 55 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 8217575.

• Опель-Вектра, 2006 г.в., 1,9 ТД, сіні універсал. Т. (8-029) 5088142, (8-044) 7919847.

• Пежо-206, 2000 г.в., 1,9 дызель, цёмна-зялёны, 5 дзвярэй, хэтчбэк, 60 000 000 руб Вілейка. Т. (8-025) 9599282.*

• Пежо-405, 1991 г.в., 1,9 дызель, зялёны, універсал. Т. (8-044) 7196323.*

• Пежо-406, 1997 г.в., 1,8Б, універсал, серабрысты, 240 000 км. Замененыя ўсе расходнікі. Машына ў парадку. Сеў – паехаў. 65 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 5039436.*

• Прычэп да мотаблока, кузаў 1700х1500х400. Т. МТС (8-029) 8582378.*

• Рэно-Гранд Сцэнік, 2006 г.в., ДСІ, шэры металік. Т. Вэлком (8-029) 1185419.*

• Рэно Сцэнік, 1996 г.в., 1,6Б, цёмны металік, есць усё, акрамя скуры. Т. (8-029) 3625139.*

• Рэно-19 на запчасткі, ёсць усё. Т. МТС (8-033) 6619730.

• Рэно-Лагуна 1, 2000 г.в., 1,9 Д, 75 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 2731365.*

• Сітраэн ZX, 1996 г.в.,1,4 бензінгаз, у добрым стане. Т. (8-029) 1243613.*

• Сітраэн-Ксантыя, 1996 г.в., па з/частках. Т. МТС (8-029) 5037549, МТС (8-033) 6041924.*

• Таёта-Карына "Е", 1995 г.в., 1,6 бензін, прабег 220 т.км, цёмна-зялёны перламутр. Т. (8-029) 5692913, (8-029) 7692184.*

• УАЗ 469, газ-бензін. Т. (8-044) 5586638.*

• Форд-Сіера, 1988 г.в., газ-бензін. Т. (8-033) 6383847.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДА РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭНАЎ** у наяўнасці. Для іншых марак пад заказ. Вялікі выбар, нізкія цэны, гарантыя, Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501, (8-029) 8787760, (8-029) 6392287.*

• Запчасткі б/у да Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• Запчасткі для Сітраэна-Эвасьёна, Пежо-806. Т. (8-029) 6650884. (8-029) 8726471.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Рухавік "Ліфан" з аўтаматычным счапленнем і рэдуктарам 1:2 (убудаваныя), 9 л, м. Для самаробнай тэхнікі. Т. (8-029) 5552836, (8-029) 1437523.

## КУПЛЮ

• **АЎТО, ДАРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 6757851.*

• Аўто 1980-2010 г.в. у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Заднюю бэльку ад Аўдзі-80,100 у зборы. Т. (8-029) 6048702.

• Іншамарку з любымі дэфектамі, да 25 000 000 руб. Т. (8-029) 3856049.*

• Любое аўто, любой маркі і мадэлі, у любым стане, аварыйнае ці на з/часткі. Т. (8-029) 2635648.*

• Мотаролер "Вятка", "Тула", "Турыст". Т. (8-01771) 55731, (8-029) 9377197.

## ПАСЛУГІ

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЭІ ПАД ВАД.У, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***

• Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• **ПАКУПКА І ДАСТАЎКА ЛЮБЫХ А/М З ГЕРМАНІІ. НІЗКІЯ ЦЭНЫ. ПСУП «ЛОТАС-АЎТО» УНП 690610798. Т. (8-029) 6575486, (8-029) 8417340.***

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*







# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ф. Скарыны, д.52, 2002 г. , 46/ 30/ 9,2, 1 паверх. Т. (8-029) 5062789.

• 2 дамы. Т. (8-01591) 20800, (8-029) 9537371.*

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г.Любань, палавіна, 34/22/5, цагляны, цана 127 000 000 руб. Т. (8-029) 1407772.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 2 паверх, 47/29/7,4. Т. Вэлком (8-029) 6297833.

• 3-пакаёвая кватэра з рамонтам ў Маладзечне па вул. Замкавай, 62/40/9 кв.м.Т. Вэлком (8-029) 6888111, (8-017) 2362744.

• 3-пакаёвая кватэра, 63,2 кв.м, кухня 7,9, лоджыя.Т (8-029) 2500524.*

• 3-пакаёвая ўтульная цёплая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 2 паверх. Т.(8-029) 3201270, (8-029) 5681791.*

• Дача ў в. Кардон Вілейскага р-на, 7 сотак, лазня, калодзеж. Т. МТС (8-029) 2789116.

• Дача ў Лазаўцы. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Дом 2-павярховы драўляны на вываз. Т. МТС (8-029) 7737594.*

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в.Петраполь Астравецкага р-на. У 100 метрах – возера. Т. (8-029) 6638816.

• Дом на беразе возера Свір (25 сотак). 100% гатоўнасці, выдатны стан, выхад да возера, 480 000 000 руб. Т. (8-029) 1405077.*

• Дом у в. Доўгае Вілейскага р-на. Т. МТС (8-029) 7050926, (8-029) 8575327.

• Дом у в. Ерхі Вілейскага р-на. Т. (8-029) 8639836.*

• Дом у в. Ілішчавічы Асіпавіцкага с/с, участак 0,13 га, 3-фаз.электр., газ, тэлефон, інтэрнэт, тэлебачанне. Т. +79035849995.

• Дом у в. Клочкі Смаргонскага р-на, 4 гады, як нежылы. Гараж, калодзеж, склеп, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 2623422, (8-0176) 708047.*

• Дом у в. Порса Вілейскага р-на. Абшыты сайдынгам, гараж, лазня, вада, 25 сотак зямлі, ёсць магчымасць падвесці газ, 300 000 000 руб Т. (8-029) 6939836.*

• Дом у в. Скадорвы Валожынскага р-на, гаспабудовы, калодеж, участак 0,3 га.Т. (8-0176) 765202, (8-029) 5681972.*

• Дом у в.Рэчкі Вілейскага р-на, 40 кв.м, дрэва, ашаляваны, летняя кухня, склеп, хлявы, участак 25 сотак у ўласнасці, побач лес, возера, вадасховішча. Т. (8-029) 1690156.

• Дом у в.Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у Вілейцы, 100 кв.м, р-н вадасховішча, 2 уваходы, 30 сотак зямлі, пабудовы, кацёл (вугаль, дровы), можна падключыцца да газу, каналізацыі. Т. (8-01771) 74323, Вэлком (8-044) 4507552.

• Дом у г. Столін Брэсцкай вобл. альбо абмен на дом ці кватэру ў Маладзечне ці Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• Дом у Маладзечне па вул. Калядкай, 90 кв.м, два ўваходы, газ, вада ці абмен на 1,5 кватэру з даплатай, 75,5 соткі. Т. (8-0176) 736532.*

• Кватэра ў Маладзечне па вул. Ясінскага, 32, сталінка, 2 паверх, агул. плошча 75 кв.м, вялікая прыхожая, туалет, ванна – раздзельныя, кухня 8 кв.м. Т. (8-029) 6692065.*

• Участак 20 сотак з домам, на ўчастку гараж. Т. МТС (8-029) 5671415, Вэлком (8-029) 1274656.

## КУПЛЮ

• Дом стары ў вёсцы, хутар. Т. (8-029) 9276686.*

• Дом у вёсцы пад дачу. Т. (8-029) 6235160.*

## МЯНЯЮ

• Паўдома, пл. 97 кв.м, 22 км ад Маладзечна па ходу дызеля, на кватэру ў горадзе, прыгарадзе, можна з запазычанасцю, не прыватызаваную. Магчымы продаж. Т. МТС (8-033) 3925339, (8-0176) 750336.

## ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 3609369.*

• Памяшканне ў цэнтры, 32 кв.м, офіс, магазін, інш. Т. (8-029) 5551515.*

• **У АРЭНДУ ПАМЯШКАННЕ 103, 23, 3 КВ.М, ПОБАЧ З РЫНКАМ, У ЖЫЛОЙ ШМАТПАВЯРХОВАЙ ПАБУДОВЕ Ў МЯДЗЕЛЕ. АРЭНДНАЯ ПЛАТА АД 45 000 ЗА КВ.М. Т. (8-029) 7778488.***

• У арэнду памяшканне ў цэнтры, 32 кв.м, офіс, магазін, інш. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду цокальнае памяшканне, пл. 46 кв.м, пад сантэхніку, будматэрыялы ў Маладзечне па вул. Крынічнай,19, нядорага. ЧУП "Квінтагандль" УНП 600370490. Т. (8-029) 6278076.

## НАЙМУ

• Дачу (дом) добраўпарадкаваную, на сезон. Т. Вэлком (8-029) 6893564, МТС (8-029) 7535143.*

• **КВАТЭРУ Ў ВІЛЕЙЦЫ, МАЛАДЗЕЧНЕ., МАГЧЫМА ПЕРАДАПЛАТА. Т. (8-029) 6882068.***



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК. ЧОРНЫ БМВ У ПАДАРУНАК**. ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **AM-VIDEO, ВІДЭАЗДЫМКА HD, МАНТАЖ**. ІП Малько А.Г., УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Мікрааўтобусамі 8-15 месцаў. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы і г.д. ІП Маўчун А.В, УНП 691175867. Т. (8-029) 5684107.

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АГАРОДЖЫ, ВАРОТЫ, БРАМКІ З ПРАФНАСЦІЛА І МЕТАЛАШТЫКЕТНІКА.** Зварныя і кованыя вырабы. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561,(8-044) 7353986.*

• Аграсядзіба "У Мароза" запрашае на адпачынак і правядзенне ўрачыстасцей. Т. (8-029) 6650884. (8-029) 8726471.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

# Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысцconfigure** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Моладзь пасадзіла дрэвы міру

МАЛАДЗЕЧНА

**Члены клуба ЮНЕСКА "Планета" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" прынялі ўдзел у рэспубліканскай акцыі "Дрэва міру".**




Фота Віталя МЛЕЧКІ.

**Пяцёра самых актыўных членаў клуба ЮНЕСКА "Планета" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" (злева направа) Яна Тышкевіч, Паліна Шоць, Ілля Грывусевіч, Руслан Вяршыцкі, Ала Пшэнік і кіраўнік клуба Валянціна Саенка пасадзілі саджанцы елкі – дрэвы міру – каля "Маладзіка".**

15 красавіка роўна ў 15:00 усе 60 клубаў ЮНЕСКА нашай краіны пасадзілі дрэвы.

Дрэвам міру ў Беларусі абралі елку як сімвал вечнасці і чысціні. Акцыя прымеркаваная да сямідзясятай гадавіны Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, а таксама 70-годдзю ААН і ЮНЕСКА.

Пяцёра самых актыўных прадстаўнікоў клуба "Планета" высадзілі саджанцы елкі перад будынкам "Маладзіка". Неўзабаве ўстановяць і памятную шыльду аб гэтай падзеі.

– Акцыю я прысвяціла не толькі ўсім ветэранам, але і маім двум прадзедам, якія ваявалі і былі паранеными, – распавяла **Паліна Шоць**.

– А для мяне пасадка дрэў была важная і з пункту гледжання экалогіі, бо я вучуся ў хіміка-біялагічным класе і цікаўлюся прыродай, – адзначыў **Руслан Вяршыцкі**.

Па словах кіраўніка клуба ЮНЕСКА **Валянціны Саенка**, яны імкнуліся прыцягнуць увагу грамадскасці не толькі да памятных дат, але і да такіх каштоўнасцяў як мір, сяброўства, павага, узаемадапамога і супрацоўніцтва. Акцыя завяршылася запісам відэазвароту да моладзі з заклікам берагчы мір, умацоўваць дружбу і развіваць народную дыпламатыю. Гэты ролік будзе размешчаны на сайце Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА.

**Юлія СТРЫГА,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

# Як перажыла вайну дзяўчына з Валожына

## З успамінаў сястры Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №№12, 13, 14, 16*

ВАЛОЖЫН

**Пра тое, якім было жыццё ў час акупацыі для жанчын, як ратавалі адзін аднаго і якімі страхамі і клопатамі жылі ў час вайны.**

Пра жыццё ў час Другой сусветнай вайны распавядае сястра жаўнера арміі Андэрса Мікалая Махнача Валянціна Слабодчыкава, у дзявоцтве Махнач. Успаміны ў рэдакцыю перадала Яўгенія Чаплінская з мястэчка Літва.

### У час бамбавання немцы пілі

Бамбілі вакзал і чыгуначныя каляіны. Бомбы падалі і ў горадзе, але далекавата. Мяне ўразіла тое, што ў чатырохпавярховым будынку непадалёку ад нас былі асветленыя ўсе вокны і адтуль далятала музыка і песні. Служанка патлумачыла, што гэта рэстаран для немцаў. Яны там напіваюцца і плююць на ўсякае бамбаванне, бравіруюць адзін перад адным і перад прастытуткамі.

Гадзіны дзве праседзелі ў падвале, ды і пасля не адразу паснулі. Раніцой прачнуліся не зусім адпачнулымі, ды і ў гаспадароў быў невясёлы выгляд. За снеданнем спадар Астроўскі нам сказаў: "Вяртайцеся вы лепш дахаты. Бамбаванні хутчэй за ўсё паўторацца – не дай Бог якога няшчасця".

Нам толькі гэтых слоў і трэба было. Хутка сабраліся і на вакзал. Пасажырскага цягніка не было, таму ўладкаваліся на таварняк. Даехалі да Маладзечна, а адтуль прыгарадным – да нашых Палачанаў. Ніхто нас у Валожыне за вяртанне не лаяў. Хлопцы ж, здаецца, засталіся на курсах.

### Далей ад Чырвонай Арміі

З харчаваннем тымі часамі было цяжка, то я неяк запрасіла дахаты нашу кіраўнічку Іру. У нас была карова, таму мелі малако, смятану, масла, тварог, ну і, зразумела, яйкі, бо гадавалі курэй, як, дарэчы, і парсючка.

Іра раскавала маме, што яе бацькоў забілі партызаны – бацька быў недзе бургамістрам. Мама заўсёды ўсіх шкадавала, а тут, даведаўшыся, што яна сірата, запрасіла прыходзіць да нас часцей.

Быў канец чэрвеня. І ўсе ўбачылі, што немцы пакідаюць вайсковы гарадок. Пачалі з'язджаць і службоўцы, а таксама паліцэйскія сем'і. Іра прыйшла да нас і сказала, што і я павінна пакінуць Валожын, бо партызаны пачнуць прыдзірацца, што вучылася пры немцах, а нехта данясе, што была ў СБМ і нават адзін час была адказная за работу гэтай арганізацыі.

І мы паверылі Іры, што мне трэба з'ехаць з горада. Мама сказала; "Калі ёсць машына, то даедзь да Вішнева, а потым неяк дабярэшся і перачакаеш, колькі трэба, у дзядзькі Аляксандра".

Узяўшы з сабой невялікі клунак з вопраткай, я пайшла з Ірай. Сабралася некалькі сямей, і мы на дзвюх машынах паехалі ў Вішнева. Там было ўжо некалькі машын ахвотных ехаць у Германію, далей ад Чырвонай Арміі.

Я сказала Іры, што хачу развітацца ў Вішневе з адной родзічкай. Кіраўнічка пайшла са мною. Знайшлі патрэбную сядзібу. Але там было не да нас, якраз хавалі старую маці гаспадара.



Фота забяспечана Валянцінай МАХНАЧ.

Валачобнікі на Вялікдзень у 1942 годзе. Валянціна Махнач (злева) разам са стрыечнай сястрой. Валачобнікі – хлопцы з Касцельнай вуліцы.

### Схавалася ў жытнім полі

Я ў той час была вельмі нерашучая і не магла сказаць Іры, што хачу тут застацца, дзяўчына ж мяне не пакідала ні на крок. Я цяпер разумею яе: ёй таксама было цяжка і адзінока сярод чужых людзей і хацелася, каб хоць хто-небудзь знаёмы быў побач.

І так мы паехалі далей. Рухаліся цэлы дзень, усё больш аддаляючыся ад родных мясцін, і я не ведала, дзе ж мне застацца, каб не ехаць у незнаёмую Польшчу. Бо была размова, што савецкія войскі дойдуць да старой мяжы і спыняцца.

Увесь абоз атабарыўся на начлег у лесе, далёка за Лідай. Да гэтага звярнулі з шашы і ехалі палявымі дарогамі, абапал якіх чамусьці не было вёсак. Трапляліся толькі пералескі ды засеяныя палі.

Там, дзе спыніліся, было ўжо даволі шмат машын з немцамі і ўцекачамі. Усю ноч я спала неспакойна, усё думала, што ад'язджаю ўсё далей ад хаты, дзе засталася адна мама. "Божа, якая я дурніца – Колі няма, а я паехала. І калі вярнуся?"

Раніцай, калі пачалі зноў збірацца ў дарогу, я зрабіла выгляд, што трэба па сваіх справах адлучыцца ў кусты. Мінуўшы хмызняк, дайшла да жытняга поля і там схавалася, лёгшы на зямлю.

Па нейкім часе машыны ад'ехалі, і ў лесе заціхла. Я выйшла на дарогу і роспачна падумала, а што ж далей? На мне былі толькі блузка і сарафан, на нагах драўляныя басаножкі, на шыі маленькі крыжык, падараваны Мішам, ды іконка. Мела яшчэ пасведчанне асобы, а больш нічога! І пайшла я, між іншага, услед за машынамі, каб сонца свяціла мне ў спіну.

### Дайце піць, Богам прашу

Голад і смага ўжо даваліся ў знакі. Але я ішла. Хадзіць я ўмела хутка. А на дарозе ні душы, і побач ніякіх слядоў паселішчаў. Можа, праз нейкія дзве гадзіны набрыла на калодзеж, але там вады не было і кроплі. А калі б і была, то чым яе дастаць? Села каля калодзежа і горка заплакала. Настае ноч, хоць і летняя, але будзе халодна.

Ад калодзежа ўправа адыходзіла палявая дарожка, былі бачныя сляды калёс. Можа, па ёй дайду да якога жытла?

Крыху адпачыўшы, пайшла я па той дарожцы. Праз паўкіламетра пачаўся густы альхоўнік, а далей хвоі. Мінуўшы іх, убачыла гаспадарчыя пабудовы. "Хутары", – падумала я і прыспешыла хаду. Павярнула да правай сядзібы з ладным домам. Калі падышла да варотцаў, забрахаў сабака, прывязаны непадалёк. На яго брэх з дому выйшаў мужчына сярэдніх гадоў. "Добры дзень, – сказала і папрасіла: "Дайце піць, Богам прашу. Цэлы дзень іду без вады".

Ён хутка падышоў да калодзежа, набраў вады і сказаў, каб заходзіла на дварышча.

Я піла маленькімі глыткамі, бо перасохламу горлу было балюча.

– Хто і адкуль? – спытаў.

– Я з Валожына. Немцы везлі ў Германію. Я схавалася, а потым цэлы дзень ішла і не сустрэла ні людзей, ні калодзежа з вадой. І можа, далі б Вы мне кавалачак хлеба.

– Хадзем у хату, – сказаў гаспадар.

Мы накіраваліся да ганка. А там ужо выбеглі з дома тры хлопчыкі. Старэйшаму было каля дзесяці, сярэдняму недзе пяць, а наймелшаму каля трох.

Узышлі на ганак, потым праз сенцы ў кухню. Там гаспадарыла пажылая жанчына.

– Вось, мама, – сказаў гаспадар, – Бог паслаў нам не толькі дачку, але і няньку.

### Стала нянькай для чацвярых дзяцей

Я спачатку не зразумела, чаму ён так сказаў. Але потым высветлілася, што ўсяго два дні таму ў іх нарадзілася доўгачаканая дачушка. А тут лета, неўзабаве пачнецца касавіца, а там і жніво. І на каго пакінуць чацвёра дзяцей? Так і засталася я на гэтым хутары амаль на год.

**Валянціна СЛАБОДЧЫКАВА (МАХНАЧ), Малдова.**

**Працяг будзе.**

---

КАЛЯНДАР

**25 красавіка.** 1964 год. У Маладзечне адкрыўся Мінскі абласны краязнаўчы музей (заснаваны 8 ліпеня 1959 года).

***

**26 красавіка.** Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чанобыльскай АЭС.

***

**27 красавіка.** 70 гадоў назад (1945) Беларусь увайшла ў склад членаў – заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

***



**85 гадоў** з дня нараджэння (1930) **Мая Данцыга**, беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Нарадзіўся ў Мінску. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, праз некаторы час мастацкі інстытут імя Сурыкава ў Маскве. Працаваў загадчыкам кафедры жывапісу Акадэміі мастацтваў. Творы мастака знаходзяцца ў Дзяржаўнай Трацццякоўскай галерэі, Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у калекцыях Бельгіі, Германіі, Ізраіля, Італіі, США, Канады, інш. Назвы некаторых яго работ вядомыя нават школьніку: "Беларусь – маці партызанская", І памятае свет выратаваны", "Мой горад". Яму належаць словы: уменне вучыцца – гэта таксама вялікае мастацтва, прычым вучыцца ўсё жыццё.

***

**28 красавіка.** 115 гадоў назад (1900) памёр Францішак Багушэвіч, паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстання 1863 – 1864 гадоў. Нарадзіўся ў Жупранах (Ашмянскі раён). Памёр у Кушлянах, цяпер Смаргонскі раён.

***

**1918 год.** Народны Сакратарыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у Беларускай Народнай Рэспубліцы і прыняў пастанову аб адкрыцці ў Мінску ўніверсітэта.

***

**29 красавіка.** Нарадзіўся Мікола Ермаловіч (1921 – 2000), беларускі гісторык, публіцыст, пісьменнік і паэт. Жыў у Маладзечне.

***

**50 гадоў** з часу ўводу (1965) беларускай нафты ў міжнародны нафтаправод "Дружба".

**Марыя БЕРАСНЕВА.**




Справа – галоўны рэдактар газеты Аляксандр Манцэвіч. Побач з ім – тэхнічны рэдактар Ігар Мароз. Яны мяняюць шыльду над уваходам у рэдакцыю. 2014 год.

# Аляксандр Манцэвіч: **Галоўныя дасягненні і скарб – нашы чытачы**



Аляксандр Манцэвіч, галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты".

**Прайшло 20 гадоў, а я згадваю раскіданыя па падлозе арыгіналы першага нумара "Рэгіянальнай газеты", у якую паверылі тыя, хто яе пачынаў.**

Тое, як мы разглядалі першы нумар, які так прыемна пах друкарскай фарбай. Першыя водгукі, першыя лісты ў рэдакцыю.

Нейкі час таму мы ў калектыве рэдакцыі абмяркоўвалі, якія экспанаты змогуць паказаць нашу гісторыю.

Аказалася, што на гэта не могуць прэтэндаваць друкавальная машынка ці чарнільная аўтаручка. А такія рэчы можна пабачыць у многіх рэдакцыях. Проста мы занадта маладыя, каб згадаць такія тэхналогіі.

20 гадоў таму ўжо можна было рабіць газету на камп'ютарах…

Калі зірнуць назад, то ўсё ж тэхналогіі пайшлі далей. Не возім мы ў друкарню арыгінал-макеты ў тубусах, не складаем кожны экземпляр газеты як канструктар з асобных частак… Дый толькі тэхналагічныя дасягненні – гэта не тое, каб дзеля асваення іх трэба было ствараць газету.

Нашы дасягненні – гэта нашы чытачы. Той кавалачак супольнасці, які гуртуецца вакол адзінага, цалкам беларускамоўнага масавага выдання беларускага Павілля. А сёння – і вакол нашага інтэрнэт-сайта.

Гэта і аўтары, якія пішуць нам, каб падзяліцца з іншымі сваімі ведамі, радасцямі, праблемамі…

Няма ўжо некаторых пачынальнікаў: аднаго з арганізатараў газеты заўсёды ўсмешлівага Ігара Вейса, любімага для многіх аўтара краязнаўцы Анатоля Рогача і пісьменніка невычэрпна дасціпнага Міколы Капыловіча, шчырага Пятра Цыгалкі…

Але ёсць іхні працяг: тысячы чытачоў па-ранейшаму любімай "Рэгіяналкі", тысячы наведнікаў сайта газеты. Гэта і ёсць нашым сапраўдным дасягненнем і скарбам.

З павагай
Аляксандр МАНЦЭВІЧ,
галоўны рэдактар
"Рэгіянальнай газеты"
ад першага яе нумара.

# Пра што мы пішам




12 ліпеня 2013 года "РГ" правяла акцыю "Зрабіце нам дарогу". Людзі фатаграфаваліся з плакатамі, на якіх па-рознаму абыгралі просьбу ея адрамантаваць: "Хто дасць грошы на падвеску?", "Няма дарог – давай метро". "За што плачу падаткі?", "Баюся зламаць ногі" і іншыя.

Перад акцыяй карэспандэнты падлічылі колькасць ямінаў на невялічкім адрэзку дарогі, іх глыбіню. Пасля акцыі зладзілі інтэрв'ю з дырэктарам "Камунальніка".

Ужо восенню "Камунальнік" здаў першую частку рамонту. Налета дарожнікі закончылі працу.

Падзякавалі за рамонт мы на новым асфальце: напісалі крэйдай "Дзякуй за дарогу".

Пасля яшчэ доўга чытачы ўзгадвалі такі незвычайны падыход да праблемы.



"РГ" была побач, калі на Маладзечаншчыне вырашылі пабудаваць два свінакомплексы на 100 тысяч галоў. Адзін – каля Соўлава. Другі – каля Мойсічаў, у трох кіламетрах ад Маладзечна. На здымку жыхары вёскі Раеўшчына, якая, згодна з планам будаўніцтва свінакомплексу ля Мойсічаў, трапляла ў санітарна-ахоўную зону. Людзі падпісваюць ліст, у якім выказваюць нязгоду з планаваным месцам будаўніцтва.

У газеце цягам некалькіх месяцаў выходзілі артыкулы, рэпартажы і аналітычныя матэрыялы, прысвечаныя гэтай праблеме. Карэспандэнты былі на грамадскім абмеркаванні ў Маладзечне, выязджалі на Валожыншчыну, каб паразмаўляць з людзьмі, якія жывуць побач з такім жа, ужо пабудаваным, свінакомплексам.



Краязнаўца з Валожына Георгі Каржанеўскі звярнуўся ў рэдакцыю, каб мы распавялі пра запланаванае будаўніцтва жылых дамоў на гарадскім стадыёне, дзе ў часы Другой сусветнай вайны расстралялі 200 яўрэяў. Ён зладзіў пікет супраць будаўніцтва, пра які мы напісалі. Рэдакцыя знайшла і апублікавала архіўныя дакументы з пасляваеннымі паказаннямі сведкаў пра расстрэл.

Журналісты паехалі на Валожыншчыну і пагутарылі з трыма жанчынамі, жывымі сведкамі тых падзей, чые партрэты змешчаныя на фота.

Георгі Каржанеўскі памёр у выніку інсульту. Праз некаторы час пасля яго смерці на стадыёне ў Валожыне пачалі раскопкі, знайшлі парэшткі загінулых і перапахавалі. Дамы там ніхто не пабудаваў.

# Пра газету гавораць людзі, якія яе робяць



Ніна Манцэвіч, намесніца дырэктара па фінансах і эканоміцы.

– Рабіць газету нялёгка. Гэта сапраўдная вытворчасць. І, як у любой вытворчасці, здараюцца цяжкія часы. Але нам лягчэй перажыць складанасці, бо адчуваем сваю запатрабаванасць і адказнасць перад чытачамі.

За 20 год з'яўляліся новыя выданні, нарадзіўся беларускі інтэрнэт. Але і мы пастаянна мяняемся, каб па пятніцах чакалі газету, а раніцай кожнага дня нас шукалі ў сеціве.

Газеце заўжды шанцавала на добрых супрацоўнікаў. Спадзяюся, чытачы адчуваюць гэта, трымаючы ў руках “РГ”.



Марыя Бераснева, стылістычны рэдактар.

– Газета – гэта маё жыццё. Пры мне яна “патаўсцела”, папрыгажэла, набыла сучасны выгляд. Кожны, нават самы невялічкі, матэрыял праходзіць праз мае рукі. Люблю сваю работу, з любоўю і павагай стаўлюся да тых, з кім працую, і да тых, хто чытае наша выданне. Хачу, каб кожны чытач знаходзіў у ёй тое, ад чаго захацелася змяніць да лепшага сваё жыццё, каб давала веру ў дабрыню і справядлівасць, каб натхняла ведаць сваю мову і гісторыю.



Ігар Мароз, тэхнічны рэдактар.

– Узяў у рукі “РГ” у 1997 годзе. Уразілі артыкулы на роднай мове, незалежны погляд на падзеі. Як тэхнічны рэдактар раёнкі пачаў сачыць за яе дызайнам і часам браць на заметку цікавыя рашэнні. “РГ” першая ў рэгіёне набыла лічбавы фотаапарат. Вельмі ўразіўся, калі рэдактар сфоткаў ім мяне на Масленіцы ў Вілейцы ў 2001 годзе. Я ж працаваў з фотаспужкай аж да 2005 года ☹ Наперад, “Рэгіянальная газета”!



Зоя Хруцкая, загадчыца аддзела інфармацыі.

– Моцны чалавек павінны ўмець прызнавацца памылкі і прызнавацца ў любові.

Столькі любові да сваёй зямлі, гісторыі, мовы, людзей і свету ўвогуле, як у “РГ”, я не бачыла нідзе. Як і смеласці прызнавацца ў памылках і праблемах розных людзей і службаў: камунальнікаў, інвалідаў, многіх іншых.

Мы глядзім проста ў вочы нашым героям і чытачам. Бачым вашы боль, радасці і чаканні. І мы шчаслівыя, калі аддаём часцінку любові і робім мацнейшымі вас.

## “Рэгіянальная газета” – тое, што нас аб'ядноўвае



## У сэрцы Беларусі



Настасся Роўда, карэспандэнтка.

– У журналіста няма выхадных. У журналіста няма асабістага жыцця. У журналіста заўсёды мора праблем, прычым не сваіх. Навошта ісці ў журналісты? Я шмат думала над адказам. Немагчыма займацца гэтай справай, калі ты яе не любіш.

А калі любіш, гэтага дастаткова, каб прысвячаць ёй увесь свой час.

“Рэгіянальная газета” адкрыла мне прафесію. А дзякуючы людзям, якія тут працуюць, я яе палюбіла.



Галіна Сініца, карэспандэнтка.

– Праца журналіста падобная на працу медыка. Няверны дыягназ можа прывесці да калецтва. Няправільнае слова, нават літара ў артыкуле могуць глыбока раніць чалавека.

Праца журналіста вымагае пільнасці, імкнення дапамагаць словам і справай, унікаць у праблемы горада, рэгіёна, краіны.

Слова, якое сее журналіст, застаецца ў душы чытача ні на дзень ці два, яно заўсёды побач. Часам дае штуршок да зменаў, да пошуку незвычайнага ў звычайным.



Наталля Тур, карэспандэнтка.

– Калі вам скажуць, што прафесія журналіста лёгкая – не верце. Той, хто не працаваў у газеце, ніколі не зразумее, што значыць здаваць матэрыял у нумар, калі праца над ім не ідзе зусім. І што такое выслухоўваць доўгія тырады па тэлефоне, калі нехта з чытачоў не згодны з тым, што ты напісаў. Але калі вам скажуць, што прафесія журналіста цяжкая – не верце таксама. Бо хто, як не журналіст, кожны дзень адкрывае для сябе новую зорку ці нават цэлы Сусвет, імя якому – ЧАЛАВЕК!



Жанна Горбань, спецыяліст па рэкламе.

– Я ўвесь час кантактую з самымі рознымі людзьмі. І праз інтэрнэт, і па тэлефоне, і ў рэдакцыі. Да кожнага шукаю свой падыход. Шчыра радуюся, калі рэкламадаўцы задаволеныя вынікам.

У нас выдатны калектыў, сапраўдная каманда. Мы ўсе працуем на агульны вынік, і гэта цудоўна!

Дачка Настачка таксама захапілася маёй працай. Дома робіць сваю “Рэгіянальную газету”. Хаця ёй усяго пяць гадкоў!



Наталля Харытонава, спецыяліст па рэкламе і распаўсюду.

– Газета дае мне ўпэўненасць у сённяшнім і заўтрашнім днях.

Тут штодзень атрымліваю радасць ад зносінаў з людзьмі, ад падзяк кліентаў, ад самой магчымасці ім дапамагаць. Іх пазітыўнае ўзбуджэнне ад таго, што рэклама працуе і прыносіць вынікі, для мяне – своеасаблівае эмацыйнае сілкаванне.

Я іду на працу ў прадчуванні чагосьці добрага.

Увесь час у рэдакцыі вірue жыццё, і кожны дзень адкрывае мне новае. А наш малады калектыў заўсёды трымае ў тонусе.



Алесь Высоцкі, карэспандэнт.

– Удзельнічала неяк у фотаапытанні жанчына з Мядзела, ужо ў гадах. Сустракае потым і з радасцю кажа: “Людзі ў маёй роднай вёсцы на Маладзечаншчыне ўбачылі мяне ў газеце, адшукалі, патэлефанавалі!”. Бывае, у размове з чалавекам з Вілейкі або Маладзечна заўважыш: “У Вас прозвішча на мядзельскае падобнае”. “Так, – пацвярджае. – Бацькі адтуль”.

Так што, усе мы з адной зямлі. А аб'ядноўвае нашу зямлю – “Рэгіянальная газета”.




Перад пачаткам гульні здавалася, што маладзечанцы прыехалі перамагаць. На здымку пад нумарам 33 – Сяргей Трацяк, нумарам 72 – Андрэй Смірноў і нумарам 84 – Уладзімір Рогач.

ХАКЕЙ

# “Лядовыя пінгвіны” згулялі са “Шчытом”

## І апынуліся на шчыце

МАЛАДЗЕЧНА

**У нядзелю, 19 красавіка, “Лядовыя пінгвіны” сыгралі вырашальны матч 1/4 фіналу чэмпіянату горада Мінска сярод аматараў. Супрацьстаяла маладзечанцам мінская каманда “Шчыт”. Гульня адбылася ў Мінску.**

Фінальны лік – 4:3 на карысць мінчан. І атрымалася б гульня на выдатна, каб ні недарэчныя судзейскія рашэнні.

Лік гульні адкрылі гаспадары лёду ўжо на 17 секундзе. Літаральна праз дзве хвіліны маладзечанцы быццам адыграліся, але суддзя шайбу не залічыў.

Нягледзячы на гэта, “Пінгвінам” усё ж удалося зраўняць лік, а да канца першага перыяду і вывесці каманду наперад.

Забітымі галамі ў маладзечанцаў вызначыліся **Уладзімір Сянько** і **Юры Бурдук.**

Другі перыяд сустрэчы адзначыўся тым, што ні адна з камандаў не здолела змяніць лік. Але гульню мінчан глядзець было непрыемна. Некалькі разоў даводзілася бачыць на свае вочы, як гульцы мінскай каманды замахваліся на маладзечанцаў клюшкай, білі пад каленямі. Але суддзя ні разу не аштрафаваў гульцоў каманды “Шчыт”.

У трэцім перыядзе маладзечанцы ў пачатку гульні дакладным кідком **Дзмітрыя Шэка** апярэджвалі саперніка ўжо на дзве шайбы. Але па наканаванай недарэчнасці двойчы цягам адной хвіліны прапусцілі шайбу ў свае вароты.

І зноў суддзя і гульцы каманды-саперніцы паявілі сябе неналежным чынам. Лідару маладзечанскай каманды **Сяргею Трацяку** разбілі брыво. Для заўзятараў хакея відавочна, што гэта магло адбыцца толькі з-за высокай гульні клюшкай. Ды толькі суддзя нават не пад’ехаў да лаўкі, каб паглядзець на рассечанае брыво Сяргея.

Для канчатковай развязкі матча спатрэбіўся авертайм. На чацвертай яго хвіліне маладзечанцы закідваюць, здавалася, пераможную шайбу ў вароты каманды “Шчыт”, але гэту шайбу чамусьці не залічваюць.

Гледачы на трыбунах шэпчуцца, што гол усё ж такі быў.

Абарону маладзечанцы трымалі амаль да 13 хвіліны авертайма. Але мінчане знайшлі ў сабе сілы і, скарыстаўшыся тым, што “Лядовыя пінгвіны” засталіся ў меншасці, забілі пераможную шайбу.

**Засталіся маладзечанцы ў меншасці зноў з-за недарэчнага судзейства. Суддзя абвясціў, што каманда пакараная за парушэнне колькасці гульцоў на лёдзе, але такога і блізка не было.**

Сезон для маладзечанцаў скончыўся. Наступны маладзечанцы, хутчэй за ўсё, згуляюць у гэтай жа лізе. Застаецца спадзявацца, што саперніі ў наступным сезоне “Лядовым пінгвінам” будуць больш сумленныя і па-спартыўнаму шчырыя.

### Сяргей Гайдукевіч: а так не хацелася галіцца

У хакеістаў ёсць прыкмета: як толькі каманда трапляе ў плэй-оф, гульцы перастаюць галіцца.

– У мінулым нашым сезоне, – распавядае абаронца каманды “Лядовыя пінгвіны” **Сяргей Гайдукевіч**, – гульні расцягнуліся на два з паловай месяцы. Дык і не галіліся ўвесь гэты час. Шкада, што сёння прыйдзецца гэта зрабіць.

**– Як ацэньваеце сённяшнюю гульню?**

– Вы самі ўсё бачылі, хлопцы паказалі выдатную гульню. Вельмі крыўдна. А наша становішча ўскладнілася яшчэ тым, што з намі не было трэнера – на жаль, паралельна праходзіла гульня яго юных выхаванцаў. А трэнер, напрыклад, яшчэ на раскатцы бачыць, з якой пазіцыі лепей забіваць варатару, ён увогуле кіруе гульнёй. А выйграваць можна было. Мінулую гульню супраць каманды “Шчыт” мы выйгралі з лікам 3:1.

**– Чым цяпер будзеце займацца, пасля паражэння?**

– Сезон завершаны. Трэніровак больш не будзе, таму што ў Маладзечне ўжо няма лёду. Магчыма, будзем збірацца з хлопцамі гуляць у баскетбол. Больш за ўсё будуць задаволеныя нашы родныя. Нарэшце будзем больш часу дома.


Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99

ФУТБОЛ

# Каляндар гульняў каманды “Маладзечна ДЮСШ №4” на 2015 год

МАЛАДЗЕЧНА

**У табліцы ніжэй каляндар гульняў маладзечанскай каманды на сезон**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Асіповічы | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 2 мая |
| 2. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | АК “Ждановічы” | 9 мая |
| 3. | Спартак-Шклоў | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 16 мая |
| 4. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | Ашмяны | 30 мая |
| 5. | Жлобін | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 6 чэрвеня |
| 6. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | Рагачоў МК | 13 чэрвеня |
| 7. | “Прыазер’е” Верхнядзвінск | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 20 чэрвеня |
| 8. | “Вікторыя” Мар’іна Горка | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 27 чэрвеня |
| 9. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | Тарпеда-Магілёў | 4 ліпеня |
| 10. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | Асіповічы | 25 ліпеня |
| 11. | АК “Ждановічы” | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 1 жніўня |
| 12. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | Спартак-Шклоў | 8 жніўня |
| 13. | Ашмяны | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 15 жніўня |
| 14. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | Жлобін | 22 жніўня |
| 15. | Рагачоў МК | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 29 жніўня |
| 16. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | “Прыазер’е” Верхнядзвінск | 5 верасня |
| 17. | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | “Вікторыя” Мар’іна Горка | 12 верасня |
| 18. | Тарпеда-Магілёў | **Маладзечна ДЮСШ № 4** | 19 верасня |

НАВІНЫ

## “Смаргонь” перамагла ў тыповым вясновым матчы

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб “Смаргонь” 19 красавіка стартаваў у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе. Дома смаргонцы прымалі “Кобрын” і дамагліся мінімальнай перамогі 1:0.

– Матч прайшоў амаль без небяспечных момантаў. Наша каманда выціснула максімум з таго, што ствaрыла, і выйшла наперад, – расказаў прэс-аташэ “Смаргоні” **Уладзімір Амбрасевіч**. – У канцоўцы сустрэчы ў “Кобрына” была адна магчымасць зраўняць лік. Але ўдар парыраваў **Радзівон Жук**.

Гол у “Смаргоні” на 62-й хвіліне забіў **Сяргей Крот**. Ён падаспеў на дабіванне і зблізку закалаціў мяч у сетку.

Дырэктар СК “Кобрын” **Кірыл Кудзей** у пасляматчавым каментары якраз нараканў на тое, што абаронцы не дагледзелі за Сяргеем:

– Высокі нападаючы, супраць яго цяжка гуляць. У перадсезонцы мы не сутыкаліся з такімі саперніками.

Галоўны трэнер “Смаргоні” **Мікалай Рындзюк** ацаніў гульню, як “тыповы вясновы футбол”.

– Шмат барацьбы, эмоцый і адзінаборстваў. Вельмі рады, што атрымалася дастукацца да хлопцаў у перапынку. У другім тайме дадалі. На здзіўленне замены ўзмацнілі гульню, і мы дамагліся заканамернай перамогі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У валейболе перамагла каманда Маладзечанскіх электрычных сетак

МАЛАДЗЕЧНА

Завяршыліся раённыя спаборніцтвы па валейболе сярод калектываў фізічнай культуры. У іх узялі ўдзел 13 камандаў, паведамляецца на сайце аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.

Перамагла каманда Маладзечанскіх электрычных сетак. На другім месцы прадстаўнікі Энергазбыту. Трэцяй стала каманда філіяла №601 “Беларусбанка”,

## “Віліі” залічылі тэхнічнае паражэнне

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе ў вышэйшай лізе смаргонская “Вілія” атрымала тэхнічнае паражэнне 0:5. Каманда не прыехала на матч з ФК “Гродзенскі”.

Гэта не паўплывала на месца ў турнірнай тубліцы: “Вілія” па-ранейшаму ідзе пятай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталлі ТУР.

19 красавіка ў Маладзечне адбылася гульня паміж камандамі Бразіліі і Аўстраліі ў межах чэмпіянату свету па футзале. Аўстралійскія гульцы перад пачаткам матча падарылі гледачам цацачных каал – талісманаў сваёй каманды.

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**У Нью-Ёрку маладзечанка спрачаецца з мужам-грэкам за імя сына**

Я перастаў спрачацца з жонкай наконт імёнаў нашых дзяцей пасля таго, як яна сказала: "Слухай, у нашых дзяцей будзе тваё прозвішча і імя па бацьку. Дай мне хаця б імя выбраць, я ж іх усё такі нараджаю!" ***Sh@m@n.***

**Аляксандра Герасіменя: "Езджу ў метро па праязным таты"**

Прыгажуня, разумнічка, працуе як пчолка. Прыемна, калі ёсць годныя асобы ва ўсіх адносінах. Поспехаў і ўсяго найлепшага вам, Аляксандра. І вам, аўтар, Наталля Тур. Дзякуй за інтэрв'ю, хочацца перачытваць нанова. ***Святлана.***

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | |
| | | | | | 9 | 3 | | 2 |
| 8 | | 2 | 1 | | | | 5 | |
| 2 | | | | 4 | | | 3 | 7 |
| | | 3 | | | | 8 | | |
| 7 | 8 | | | 3 | | | | 9 |
| | 9 | | | | 5 | 4 | | 3 |
| 6 | | 7 | 2 | | | | | |
| | | | | | | 6 | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
25 красавіка – у 12:00 (цана білета: 20 000 рублёў)
26 красавіка – у 13:00 (25 000 рублёў)

Анімацыя, прыгоды "**Звярыны атрад**" (3D, Італія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
26 красавіка – у 11:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, 2015)
24, 29 красавіка – у 20:00
25 красавіка – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, фэнтэзі "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24, 29 красавіка – у 17:00 (цана білета: 55000 рублёў)
24, 25, 29 красавіка – у 22:40 (60 000 рублёў)
25 красавіка – у 14:00 (45 000 рублёў)
25 красавіка – у 19:40
26 красавіка – у 15:00
26, 27, 28 красавіка – у 18:00
26, 27, 28, 30 красавіка – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, фэнтэзі "**Дом**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30 красавіка – у 16:40
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Ваенная драма "**А світанні тут ціхія...**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
30 красавіка – у 18:40
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25 красавіка – у 15:00
26 красавіка – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, сямейны "**Тор. Легенда вікінгаў**" (Ірландыя, Германія, 2011, без узроставых абмежаванняў)
25 красавіка – у 16:30 (цана білета: 15 000 рублёў)
26 красавіка – у 17:00 (20 000 рублёў)

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
26, 27, 30 красавіка – у 21:30
Цана білета: 3 000 рублёў

Баявік, трылер "**Джон Уік**" (ЗША, Канада, 2014, з 16 год)
24 красавіка – у 19:30
26, 27, 30 красавіка – у 21:30
29 красавіка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Яшчэ адзін год**" (Расія, 2013, з 16 год)
24, 28 красавіка – у 21:30
25 красавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Лета. Аднакласнікі. Каханне**" (ЗША, 2011, з 16 год)
24 красавіка – у17:30
25 красавіка – у 19:00
29 красавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Салодкае развітанне Веры**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26, 28 красавіка – у 19:00
30 красавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, з 16 год)
24, 30 красавіка – у 17:30
26 красавіка – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Салодкае развітанне Веры**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24, 30 красавіка – у 19:30
25 красавіка – у 18:00
26 красавіка – у 20:30
27 красавіка – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Тор: Легенда вікінгаў**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
25 красавіка – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Баявік, трылер "**Рэйд 2**" (Інданезія, з 18 год)
25 красавіка – у 20:00
29 красавіка – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Тарзан**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
26 красавіка – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, баявік "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, з 16 год)
24, 26, 29 красавіка – у 18:00, 21:00
25 красавіка – у 19:00
30 красавіка – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў
25 красавіка – у 16:00
Цана білета – 45 000 рублёў
25 красавіка – у 22:00
Цана білета – 60 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
25, 26 красавіка – у 12:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Звярыны атрад**" (3D, Італія, без узроставых абмежаванняў)
25, 26 красавіка – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя "**Поўнае пераўтварэнне**" (2D, Расія, з 16 год)
26 красавіка – у 16:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія**" (3D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 красавіка – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Бывай, канферансье!**" (спектакль-канцэрт), *Рыгор Горын*
24 красавіка, пятніца, – 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (спектакль-рэтра ў 2-х частках – фіналіст ІІІ рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва "Нацыянальная тэатральная прэмія"), *Ірына Пісьменная*
26 красавіка, нядзеля, – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёraў*
28 красавіка, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль, прысвячаецца 70-годдзю савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне)
29 красавіка, серада, – у 14:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**
*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by http://theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**Страшнік Гам** (музычная казка, бел.), *П.Васючэнка*
26 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27.**

УНП 600136804

● ГАРАСКОП (24-30 КРАСАВІКА)

**Авен.** Звяртайце ўвагу на здароўе. Бо ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежыць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.

**Цялец.** Вас чакае нечаканы прыбытак, а таксама прыемныя нечаканасці і на працы, і дома. Вы можаце нічога не рабіць, але ўсё будзе складвацца надзвычай спрыяльна.

**Блізняты.** Вас чакаюць перамены, можна сказаць, што вы самі іх цягнеце ў сваё жыццё. Усе важныя падзеі афармляйце юрыдычна, каб потым не ўзнікала ніякіх праблем.

**Рак.** Вы будзеце абаяльныя ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, па-другое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі.

**Леў.** Дапамажыце таму, хто папросіць вас аб гэтым. І нічога не рабіць на шкоду сабе, бо некаторыя могуць пакарыстацца вашай даверлівасцю і жаданнем быць карыснымі.

**Дзева.** Вам трэба правільна размеркаваць свой час. Адну яго частку аддавайце рабоце, другую – адпачынку, а трэцюю – асабістым узаемаадносінам. Так вы адчуеце сябе больш свабодна.

**Шалі.** Нікому не навязвайце сябе: тыя, каму вы сапраўды патрэбныя, знойдуць вас.

**Скарпіён.** Звярніце ўвагу на здароўе. Галоўнай прычынай недамагання можа стаць ваша ўласная бестурботнасць і няндбайныя адносіны да сябе. Адмоўцеся ад алкаголю, нарэшце вы шкодныя прывычкі па-сапраўднаму, а не толькі на словах.

**Стралец.** Вам у галаву прыйдзе мора ідэй, якія захочацца ўсе жа ўвасобіць у жыцці. Але не спяшайцеся і нічога не рабіце на скорую руку.

**Казярог.** Узмоцніцца ўплыў пазітыўных тэндэнцый і дазволіць вам перавесці дух. Наступіць час цікавых сустрэч, прыемных зносін, маленькіх радасцяў, якія робяць жыццё яркім.

**Вадалей.** Перыяд спрыяльны і цікавы, шмат каму ён запомніцца надоўга. Трацце грошы з розумам, і яны будуць да вас вяртацца з задавальненнем.

**Рыбы.** Навучыцеся мастацтву кампрамісаў, каб не страціць каханага. Уціхамірце сваю гарачнасць, праяўляйце разважлівасць. Шчасце – у вашых руках.

Марыя УРБАНОВІЧ.

